# КОНТУРНЫЯ КАРТЫ

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

### другая палова XVI – XVIII ст.

# 8

## клас

*Рэкамендавана Навукова-метадычнай установай „Нацыянальны інстытут адукацыі“*
*Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
„БЕЛКАРТАГРАФІЯ“
2017

## Правілы работы з контурнымі картамі

1. Прачытайце адпаведны параграф падручніка і знайдзіце ў атласе „Гісторыя Беларусі: другая палова XVI – XVIII ст.“ неабходныя карты, азнаёмцеся з умоўнымі абазначэннямі, схемамі, малюнкамі і дадатковым тэкстам. Абавязковыя для выканання толькі тыя заданні, якія назаве настаўнік.

2. Прачытайце заданне і вызначце парадак яго выканання.

3. Пазнаёмцеся з умоўнымі абазначэннямі, якія сустракаюцца на контурных картах. Калі неабходна, падбярыце свае ўмоўныя знакі для выканання задання і пазначце іх побач з заданнем.

4. Пры нанясенні аб'ектаў на карту прытрымлівайцеся дакладнасці іх месцазнаходжання з дапамогай арыентацыі па берагавой лініі мораў, азёр, па рэках, па межах дзяржаў.

5. Надпісы на карце выконвайце спачатку простым алоўкам, а пасля праверкі – каляровымі алоўкамі з тонкім стрыжнем. Пры запаўненні карты трэба ўлічваць, каб надпісы і ўмоўныя знакі не перашкаджалі адзін аднаму. Асобныя тэрыторыі замалёўвайце роўным, няяркім колерам, а межы абазначайце яркімі, выразнымі лініямі.

6. Заданні-пытанні выконваюцца ў сшытку па гісторыі.

*Умоўныя абазначэнні, якія сустракаюцца на контурных картах*

**Межы**

дзяржаў

залежных тэрыторый, асобных зямель, княстваў, ваяводстваў ВКЛ

іншых тэрыторый

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**Населеныя пункты**

Сталіцы дзяржаў

Цэнтры залежных тэрыторый, асобных зямель, княстваў, ваяводстваў ВКЛ

Іншыя

# УСХОДНЯЯ ЕЎРОПА Ў ПАЧАТКУ НОВАГА ЧАСУ. ЛІВОНСКАЯ ВАЙНА 1558–1583 гг.




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) мораў; б) рэк; в) гарадоў.
2. Межы дзяржаў на пачатак Лівонскай вайны:
   чорнай лініяй – Лівонскага ордэна;
   сіняй лініяй – Расійскай дзяржавы;
   чырвонай лініяй – ВКЛ;
   зялёнай лініяй – Польшчы;
   карычневай лініяй – Швецыі.
3. Кружочкам – сталіцы дзяржаў:
   чорным – Лівонскага ордэна;
   сінім – Расійскай дзяржавы;
   чырвоным – ВКЛ;
   зялёным – Польшчы;
   карычневым – Швецыі.
4. Стрэлкамі – паходы, якія здзяйснялі падчас Лівонскай вайны:
   чырвонымі – войскі ВКЛ і Польшчы;
   сінімі – расійскія войскі.
5. Месца і час падпісання Ям-Запольскага перамір'я – чырвоным алоўкам.

Адкажыце на пытанні:

1. Чаму Лівонская вайна называецца менавіта Лівонскай? ______________________________
______________________________
______________________________
2. Колькі стагоддзяў землі Усходняй Прыбалтыкі належалі Ордэну? ______________________________
______________________________
3. На землях якіх дзяржаў разгарнуліся асноўныя падзеі Лівонскай вайны? ______________________________
______________________________

Выканайце заданні:

1. Пералічыце паслядоўнасць уступлення ў Лівонскую вайну ВКЛ, Польшчы, Лівонскага ордэна, Швецыі і Расіі.
2. Назавіце гістарычных дзеячаў, удзельнікаў Лівонскай вайны. Што вы ведаеце пра кожнага з іх?
3. Складзіце апавяданне пра падзеі Лівонскай вайны на беларускіх землях.

# УТВАРЭННЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ




*Пазначце гістарычны перыяд, якому прысвечана гэта карта*

15° на ўсход ад Грынвіча

Маштаб 1:10 000 000

Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) мораў; б) рэк; в) гарадоў.

2. Межы дзяржаў напярэдадні ўтварэння Рэчы Паспалітай:

   чырвонай суцэльнай лініяй – ВКЛ;

   зялёнай суцэльнай лініяй – Польшчы.

3. Чырвоным кружочкам – сталіцу ВКЛ, зялёным кружочкам – сталіцу Польшчы.

4. Межы дзяржаў пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай:

   чырвонай пункцірнай лініяй – ВКЛ;

   зялёнай пункцірнай лініяй – Польшчы.

5. Месца і час падпісання дзяржаўнай уніі – карычневым алоўкам.

6. Назвы дзяржаў.

Адкажыце на пытанні:

1. Да якой дынастыі належаў Жыгімонт II Аўгуст?

______________________________

2. Якія землі страціла ВКЛ у 1569 г.?

______________________________

______________________________

3. Чаму на акце Люблінскай уніі стаіць так шмат пячатак? ______________________________

______________________________

______________________________

Выканайце заданні:

1. Назавіце уніі, якія мелі месца ва Усходняй Еўропе ў XIV–XV стст.

2. Апішыце знешні выгляд магнатаў ВКЛ і Польшчы.

3. Складзіце апавяданне пра адносіны Жыгімонта II Аўгуста з магнатамі і шляхтай ВКЛ і Польшчы.

# РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ у другой палове XVI ст.

1550 1600 1650 1700 1735 1770 1800

*Пазначце гістарычны перыяд, якому прысвечана гэта карта*




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; б) населеных пунктаў.
2. Мяжу ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцу ВКЛ – чырвоным кружочкам.
4. Рэлігійныя цэнтры:
   праваслаўя – чырвонай рысай;
   каталіцтва – чорнай рысай;
   Рэфармацыі – сіняй рысай;
   іўдаізму – карычневай рысай;
   мусульманства – зялёнай рысай.
5. Крыжам – цэнтры епархій:
   праваслаўных – чырвоным;
   каталіцкіх – чорным.
6. Месца і час падпісання царкоўнай уніі – чорным алоўкам.

Адкажыце на пытанні:

1. Калі і ў якіх краінах узнікла Рэфармацыя? ________

________

________

2. Якія пратэстанцкія плыні з'явіліся ў ВКЛ у XVI ст.?

3. Чаму падзея, якая адбылася 9 кастрычніка 1596 г. у Берасці, называецца уніяй? Чым гэта унія адрозніваецца ад Люблінскай?

Выканайце заданні:

1. Пералічыце найбольш вядомых беларускіх дзеячаў Рэфармацыі.

2. Назавіце сучасныя праваслаўныя і каталіцкія храмы, якія дзейнічалі на беларускіх землях у XVI ст.?

3. Складзіце апавяданне пра рэлігійнае жыццё ў XVI ст. на беларускіх землях.

# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ ў першай палове XVII ст. КАЗАЦКА-СЯЛЯНСКАЯ ВАЙНА 1648–1651 гг.



*Пазначце гістарычны перыяд, якому прысвечана гэта карта*




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) мораў; б) рэк; в) населеных пунктаў.
2. Назвы дзяржаў.
3. Мяжу Рэчы Паспалітай у 1618 г.– зялёнай суцэльнай лініяй.
4. Сталіцу Польшчы – зялёным кружочкам.
5. Стрэлкамі – паходы:
   чорнымі – Ілжэдзмітрыя I і Ілжэдзмітрыя II;
   зялёнымі – Уладзіслава Вазы на Маскву.
6. Чырвоным сцяжком – месца заключэння Палянаўскага дагавора, побач – дату падпісання.
7. Мяжу Рэчы Паспалітай у 1634 г. – чырвонай суцэльнай лініяй.
8. Зялёнай рысай – месца, адкуль пачалося паўстанне Багдана Хмяльніцкага.
9. Стрэлкамі – паходы:
   карычневымі – паўстанцаў Багдана Хмяльніцкага;
   сінімі – казацка-сялянскіх атрадаў;
   чырвонымі – войскаў ВКЛ.
10. Сіняй рысай – назвы населеных пунктаў, якія былі заняты казацкімі і сялянскімі атрадамі.

Адкажыце на пытанні:

1. Калі гаспадарыў Ян Казімір? Да якой дынастыі належаў Ян Казімір? ______

2. Што вы ведаеце пра прычыны казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гг.? ______

3. Якія падзеі казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гг. звязаны з беларускім мястэчкам Лоеў? ______

Выканайце заданні:

1. Пералічыце, якія каралі Рэчы Паспалітай належалі да той самай дынастыі, што і Ян Казімір. Адкуль паходзіла гэта дынастыя?
2. Апішыце, як выглядалі казакі часоў казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гг.
3. Складзіце апавяданне пра падзеі казацка-сялянскай вайны 1648–1651 гг. на беларускіх землях.

# РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ у XVII ст.




**Адзначце і падпішыце:**

1. Назвы пазначаных: а) рэк; в) населеных пунктаў.
2. Межы:
   ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй;
   Рэчы Паспалітай – зялёнай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцу ВКЛ – чырвоным кружочкам.
4. Рэлігійныя цэнтры:
   праваслаўя – чырвонай суцэльнай рысай;
   каталіцтва – чорнай суцэльнай рысай;
   уніяцтва – чорнай хвалістай лініяй;
   Рэфармацыі – сіняй суцэльнай рысай;
   іўдаізму – карычневай суцэльнай рысай;
   мусульманства – зялёнай суцэльнай рысай.
5. Крыжам – цэнтры епархій:
   праваслаўных – чырвоным;
   каталіцкіх – чорным;
   уніяцкіх – чорным у кружочку.
6. Чырвоным алоўкам – час аднаўлення праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай (Кіеў).

**Адкажыце на пытанні:**

1. Які кароль Рэчы Паспалітай загадаў аднавіць праваслаўную царкву? ____________________

____________________

2. Якія нехрысціянскія рэлігіі існавалі ў ВКЛ у XVII ст.?

____________________

3. Дзе ў XVII ст. знаходзіліся рэзідэнцыі праваслаўных патрыярхаў? ____________________

____________________

**Выканайце заданні:**

1. Назавіце галоўныя цэнтры супраціўлення уніі і пазначце іх на карце.
2. Параўнайце рэлігійнае жыццё на беларускіх землях у XVI і XVII стст.
3. Складзіце апавяданне пра рэлігійнае жыццё беларускага мястэчка ў XVII ст.

# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ ў другой палове XVII ст.




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; б) населеных пунктаў.
2. Межы:
   ВКЛ да 1667 г. – чырвонай суцэльнай лініяй;
   ВКЛ пасля 1667 г. – чырвонай пункцірнай лініяй.
3. Сталіцу ВКЛ – чырвоным кружочкам.
4. Стрэлкамі – паходы, якія здзяйснялі падчас ваенных дзеянняў 1654–1667 гг:
   чырвонымі – войскі Рэчы Паспалітай;
   сінімі – расійскія войскі;
   карычневымі – шведскія войскі.
5. Рэзідэнцыі магнатаў:
   Сапегаў – чырвонай рысай;
   Вішнявецкіх – чорнай рысай;
   Радзівілаў – сіняй рысай;
   Пацаў – карычневай рысай;
   Агінскіх – зялёнай рысай.
6. Месца і час падпісання Андрусаўскага перамір'я – чырвоным алоўкам.
7. Месца і час падпісання Кейданскай уніі – сінім алоўкам.
8. Месца і час бітвы пад Алькенікамі – чорным алоўкам.

Адкажыце на пытанні:

1. Што вы ведаеце пра ход і вынікі Пераяслаўскай рады?

2. Які кароль Рэчы Паспалітай перамог турак пад Венай і Парканамі?

3. Чаму, на ваш погляд, некаторыя гісторыкі называюць перыяд другой паловы XVII ст. словам „патоп"?

Выканайце заданні:

1. Назавіце горад ВКЛ, у якім з 1673 г. павінен быў збірацца кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай.
2. Падумайце, на якой падставе шведы ўмешваліся ў справы Рэчы Паспалітай у XVII ст.?
3. Складзіце апавяданне пра ўзаемаадносіны магнатаў Рэчы Паспалітай у другой палове XVII ст.

# ГАРАДЫ І ГАНДАЛЬ У ВКЛ у XVI–XVII стст.




*Пазначце гістарычны перыяд, якому прысвечана гэта карта*

Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; б) населеных пунктаў.
2. Мяжу ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцы:
   ВКЛ – чырвоным кружочкам;
   Польшчы – зялёным кружочкам.
4. Гарады, якія атрымалі правы на самакіраванне:
   у XVI ст. – чырвоным алоўкам;
   у XVII ст. – чорным алоўкам.
5. Сіняй хвалістай рысай – гарады, якія мелі буйныя кірмашы.
6. Карычневым алоўкам – асноўныя дарогі (гасцінцы).

Адкажыце на пытанні:

1. Якія беларускія гарады атрымалі самакіраванне раней за XVI ст.?____________________

________________________________________

2. Якія рамёствы былі найбольш распаўсюджаныя ў беларускіх гарадах і мястэчках?

________________________________________

________________________________________

3. У якіх выпадках гарады ВКЛ атрымоўвалі ўласныя гербы?

Выканайце заданні:

1. Праз якія гарады праходзіў шлях, па якім у XVII ст. можна было найхутчэй трапіць з Крычава ў Гародню? З Віцебска ў Берасце?
2. Запоўніце табліцу:

Замежны гандаль ВКЛ у XVII ст.

| Напрамак | Вываз тавараў | Увоз тавараў |
|---|---|---|
| Польшча | | |
| | | |
| | | |
| Расійская дзяржава | | |
| | | |
| | | |
| Прыбалтыка | | |
| | | |
| | | |

3. Складзіце апавяданне пра гаспадарчае жыццё беларускага мястэчка ў XVII ст.

# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ Ў ГАДЫ ПАЎНОЧНАЙ ВАЙНЫ




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; в) населеных пунктаў.
2. Мяжу ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцу ВКЛ – чырвоным кружочкам.
4. Гарады, якія падчас ваенных дзеянняў 1700–1721 гг. былі спаленыя:
   расійскімі войскамі – сіняй рысай;
   шведскімі войскамі – карычневай рысай.
5. Тэрыторыі, дзе падчас ваенных дзеянняў 1700–1721 гг. канцэнтраваліся:
   расійскія войскі – сінім фонам;
   шведскія войскі – карычневым фонам.
6. Стрэлкамі – паходы, якія здзяйснялі падчас ваенных дзеянняў 1700–1721 гг:
   сінімі – расійскія войскі;
   карычневымі – шведскія войскі.
7. Сінім алоўкам – месцы і даты бітваў пры Лясной і каля Галоўчына.

Адкажыце на пытанні:

1. Якія краіны ўзялі ўдзел у Паўночнай вайне 1700–1721 гг.?______________________________

______________________________

2. Які кароль Рэчы Паспалітай быў саюзнікам Расіі падчас Паўночнай вайны 1700–1721 гг., а які – Швецыі?

______________________________

______________________________

3. Чаму, на ваш погляд, Пётр I назваў бітву пры Лясной „маці Палтаўскай баталіі“?

Выканайце заданні:

1. Пералічыце мэты краін-удзельніц пачатку Паўночнай вайны 1700–1721 гг.
2. Падумайце, чаму паводле шматбаковай дамовы спадчыннікам караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II быў абвешчаны не яго сын, а Станіслаў Ляшчынскі?
3. Складзіце апавяданне пра падзеі падчас Паўночнай вайны 1700–1721 гг. на беларускіх землях.

# МАНУФАКТУРЫ І ГАНДАЛЬ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ у XVIII ст.




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; б) населеных пунктаў.
2. Мяжу ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцы:
   ВКЛ – чырвоным кружочкам;
   Польшчы – зялёным кружочкам.
4. Суднаходныя каналы, якія былі пабудаваныя ў ВКЛ у XVIII ст.:
   Агінскі канал – сіняй лініяй;
   Каралеўскі канал – зялёнай лініяй.
5. Сіняй хвалістай рысай – гарады, якія мелі буйныя кірмашы.
6. Карычневым алоўкам – асноўныя дарогі (гасцінцы).

Адкажыце на пытанні:

1. Дзе на беларускіх землях у XVIII ст. знаходзіліся найбуйнейшыя шкляныя мануфактуры, дзе – дывановыя і шаўковых паясоў?
2. Якія магнацкія фаміліі ў XVIII ст. валодалі мануфактурамі на беларускіх землях?
3. Хто працаваў у XVIII ст. на мануфактурах на беларускіх землях?

Выканайце заданні:

1. Назавіце буйныя гандлёвыя цэнтры на беларускіх землях, якія да 1793 г. трапілі ў склад Расійскай імперыі? ______________________________

______________________________

______________________________

2. Запоўніце табліцу:

Замежны гандаль ВКЛ у XVIII ст.

| Напрамак | Вываз тавараў | Увоз тавараў |
|---|---|---|
| Польшча | | |
| Расійская імперыя | | |
| Прыбалтыка | | |

3. Складзіце апавяданне пра Слуцкую мануфактуру шаўковых паясоў.

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ у XVII ст.




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; б) населеных пунктаў.
2. Мяжу ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцы:
   ВКЛ – чырвоным кружочкам;
   Польшчы – зялёным кружочкам.
4. Цэнтры друку:
   праваслаўныя – чырвонай суцэльнай рысай;
   каталіцкія – чорнай суцэльнай рысай;
   уніяцкія – чорнай хвалістай лініяй;
   пратэстанцкія – сіняй суцэльнай рысай;
   яўрэйскія – карычневай суцэльнай рысай.
5. Літарамі чорнага колеру – месцы, дзе дзейнічалі:
   кальвініцкія школы – К;
   праваслаўныя брацтвы – Б;
   езуіцкія калегіумы – Е.
6. Чырвоным трохвугольнікам – месцы знаходжання архітэктурных помнікаў стылю барока.

Адкажыце на пытанні:

1. Якія першыя друкаваныя падручнікі па славянскай мове вы ведаеце? ______________________________

______________________________

2. Якія нехрысціянскія друкарні існавалі ў ВКЛ у XVII ст.? Дзе яны знаходзіліся? ______________________________

______________________________

3. Дзе ў ВКЛ у XVII ст. знаходзілася вышэйшая навучальная ўстанова? Як яна называлася? ______________________________

______________________________

Выканайце заданні:

1. Апішыце знешні выгляд студэнтаў і выкладчыкаў вышэйшай навучальнай установы ВКЛ у XVII ст.
2. Параўнайце дзейнасць крыжакоў і езуітаў на беларускіх землях.
3. Складзіце апавяданне пра развіццё культуры на беларускіх землях у XVII ст.

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ у XVIII ст.

1550 1600 1650 1700 1735 1770 1800

*Пазначце гістарычны перыяд, якому прысвечана гэта карта*




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; в) населеных пунктаў.
2. Мяжу ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцы:
   ВКЛ – чырвоным кружочкам;
   Польшчы – зялёным кружочкам.
4. Цэнтры адукацыі ВКЛ у XVIII ст.:
   вышэйшая навучальная ўстанова – чырвонай рысай;
   свецкія школы – чорнай рысай;
   яўрэйскія школы – карычневай рысай.
5. Чорнай літарай Т – месцы, дзе дзейнічалі прыгонныя тэатры.
6. Чырвоным трохвугольнікам – месцы, дзе ў ВКЛ знаходзіліся культавыя пабудовы з аздабленнем у стылі ракако.
7. Чырвонай літарай П – месцы, дзе знаходзіліся палацава-паркавыя ансамблі.

Адкажыце на пытанні:

1. За якім перыядам гісторыі замацавалася назва „эпоха Асветніцтва“? Чаму? ____________________

____________________

2. Дзе на беларускіх землях выдаваўся першы друкаваны сродак масавай інфармацыі? Што гэта было за выданне?
3. Якія саслоўі мелі доступ да адукацыі на беларускіх землях у XVIII ст.? Ці складалі ўсе яны разам большасць насельніцтва?

Выканайце заданні:

1. Назавіце самых знакамітых дзеячаў Асветніцтва на беларускіх землях?
2. Пералічыце мерапрыемствы, якія праводзіла Адукацыйная камісія на беларускіх землях.
3. Складзіце апавяданне пра развіццё культуры на беларускіх землях у XVIII ст.

# ВКЛ у сярэдзіне XVIII ст.




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) рэк; б) населеных пунктаў.
2. Мяжу ВКЛ – чырвонай суцэльнай лініяй.
3. Сталіцы:
   ВКЛ – чырвоным кружочкам;
   Польшчы – зялёным кружочкам.
4. Рысай – гарады ВКЛ:
   якія ў сярэдзіне XVIII ст. былі цэнтрамі ваяводстваў – чырвонай;
   дзе ў сярэдзіне XVIII ст. пастаянна знаходзіліся расійскія войскі– сіняй.
5. Знакам „полымя“ – месцы сялянскіх паўстанняў сярэдзіны XVIII ст.
6. Зялёным сцяжком – рэзідэнцыю прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага ў 1734 г.

Адкажыце на пытанні:

1. Да якой дынастыі належаў Аўгуст III? Як ён прыйшоў да ўлады ў Рэчы Паспалітай?
2. Па якой прычыне суседнія краіны лічылі Рэч Паспалітую дзяржавай слабай і няздольнай да сур'ёзнага супраціўлення?
3. Як ставіліся арандатары да сялян у Рэчы Паспалітай сярэдзіны XVIII ст.?

Выканайце заданні:

1. Назавіце прычыны сялянскіх паўстанняў сярэдзіны XVIII ст.
2. Падумайце, чаму тэрыторыю Рэчы Паспалітай сярэдзіны XVIII ст. некаторыя гісторыкі называюць „прахадным дваром“?
3. Складзіце апавяданне пра жыццё сялян на беларускіх землях у сярэдзіне XVIII ст.

# ПАДЗЕЛЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ




Адзначце і падпішыце:

1. Назвы пазначаных: а) мораў; б) рэк; в) населеных пунктаў.
2. Мяжу Рэчы Паспалітай – чырвонай лініяй.
3. Сталіцы:
   ВКЛ – чырвоным кружочкам;
   Рэчы Паспалітай – зялёным кружочкам.
4. Цэнтры канфедэрацый і даты іх утварэння – рысай:
   зялёнай – Барскай;
   чорнай – Слуцкай;
   сіняй – Торуньскай;
   карычневай – Таргавіцкай.
5. Межы тэрыторый, якія страціла Рэч Паспалітая паводле першага падзелу на карысць:
   Расіі – сіняй пункцірнай лініяй;
   Прусіі – чорнай пункцірнай лініяй;
   Аўстрыі – карычневай пункцірнай лініяй.
6. Межы тэрыторый, якія страціла Рэч Паспалітая паводле другога падзелу на карысць:
   Расіі – сіняй кропкавай лініяй;
   Прусіі – чорнай кропкавай лініяй.
7. Тэрыторыі, якія страціла Рэч Паспалітая паводле трэцяга падзелу на карысць:
   Расіі – сінім колерам;
   Прусіі – чорным колерам;
   Аўстрыі – карычневым колерам.
8. Зялёным сцяжком – месца пачатку паўстання 1794 г.

Адкажыце на пытанні:

1. Хто быў апошнім каралём Рэчы Паспалітай? Калі ён гаспадарыў? ____________________

2. Калі была прынята першая ў Еўропе Канстытуцыя?

3. Хто кіраваў паўстаннем 1794 г. у Рэчы Паспалітай?

Выканайце заданні:

1. Параўнайце сялянскія паўстанні з паўстаннем 1794 г.
2. Назавіце прычыны падзелаў Рэчы Паспалітай.
3. Складзіце апавяданне пра паўстанне 1794 г. на беларускіх землях.

## ЗМЕСТ


| Старонка | | Маштаб |
|---|---|---|
| 3 | Усходняя Еўропа ў пачатку Новага часу. Лівонская вайна 1558–1583 гг. | 1:12 000 000 |
| 4 | Утварэнне Рэчы Паспалітай | 1:10 000 000 |
| 5 | Рэлігія і царква на беларускіх землях у другой палове XVI ст. | 1:5 250 000 |
| 6 | Рэч Паспалітая ў першай палове XVII ст. Казацка-сялянская вайна 1648 –1651 гг. | 1:10 000 000 |
| 7 | Рэлігія і царква на беларускіх землях у XVII ст. | 1:5 250 000 |
| 8 | Рэч Паспалітая ў другой палове XVII ст. | 1:5 250 000 |
| 9 | Гарады і гандаль у ВКЛ у XVI–XVII стст. | 1:5 250 000 |
| 10 | Рэч Паспалітая ў гады Паўночнай вайны | 1:5 250 000 |
| 11 | Мануфактуры і гандаль на беларускіх землях у XVIII ст. | 1:5 250 000 |
| 12 | Культура беларускіх зямель у XVII ст. | 1:5 250 000 |
| 13 | Культура беларускіх зямель у XVIII ст. | 1:5 250 000 |
| 14 | ВКЛ у сярэдзіне XVIII ст. | 1:5 250 000 |
| 15 | Падзелы Рэчы Паспалітай | 1:10 000 000 |



Вучэбнае выданне

Змест і практычныя заданні распрацавалі: А. В. Перзашкевіч, І. А. Аўдзееў
Карты складзены і падрыхтаваны да друку Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія" Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь у 2011 г.
Рэдактар Г. С. Малышава
Тэхнічны рэдактар Н. М. Шэвель

Падпісана да друку 06.07.2017
Фармат паперы 62х88 1/8
Друк. арк. 2,0. Ум. друк. арк. 2,02
Тыраж 8 000 экз. Заказ № 1868.

РУП „Белкартаграфія".
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/30 ад 19.08.2013, № 3/1450 от 14.04.2017.
Пр. Машэрава, 17А, 220029, Мінск.
Тэл./факс:(017)284-71-59, 334-81-54.
E-mail: belkartograf@yandex.by

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства „Выдавецтва „Беларускі Дом друку".
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/102 ад 01.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск.



ISBN 978-985-508-409-0


